● ДИЕТОЛОГИЯ: ПЕРЕОЦЕНКА ЦЕННОСТЕЙ

# ИНФАРКТ НЕ ОТ ЖИРА

***Кто сейчас не знает, что мясо, яйца и масло вредны для здоровья оттого, что содержат холестерин? Многолетние усилия диетологов привели к тому, что большая часть вкусных продуктов оказалась под запретом. Только вот уровень сердечно-сосудистых заболеваний почему-то не снизился. Эта "неувязочка" заставила американских ученых провести новые исследования. Результаты были опубликованы в 1999 году.***

### ЕСТЬ ИЛИ НЕ ЕСТЬ?

Холестерин привлек внимание ученых 30 лет назад, когда была замечена связь между повышенным его уровнем в крови и склонностью к сердечно-сосудистым заболеваниям. Это зловредное вещество в виде бляшек откладывается на внутренних стенках сосудов и в конечном счете может закупорить их. Ученые объявили холестерин смертельно опасным ядом. На рынке в больших количествах начали появляться обезжиренное мясо, масло из искусственных жиров... За рубежом производство таких продуктов — целая индустрия с многомиллиардным оборотом.

И что? А ничего. Если верить последним исследованиям, **количество холестерина в пище и крови не связано напрямую.** У многих здоровых людей уровень холестерина остается одним и тем же, что бы они ни ели. А у многих сердечников он низок, но от этого они не перестают болеть. Организм человека, оказывается, сам производит некоторое количество холестерина.

По каким-то причинам, возможно, генетическим, организм некоторых людей не может утилизировать весь произведенный холестерин — он-то и откладывается на стенках сосудов. К тому же холестерин холестерину рознь: он бывает высокой и низкой плотности. Последний для организма безусловно вреден, а первый, кажется, даже очищает артерии. К тому же кроме холестерина сосуды может забивать и не так давно открытый липопротеин, а уж его-то уровень в организме совершенно точно определяется генетической предрасположенностью, а не диетами.

### ПИТЬ ИЛИ НЕ ПИТЬ?

Маргарин, к употреблению которого взамен масла еще недавно призывали диетологи, на самом деле не менее вреден для организма. Процесс взбивания овощных масел с водой, в результате которого, собственно, и получается маргарин, тоже превращает его в средство для блокирования сосудов. Что же мы теперь знаем о питании? Собственно, то же, что и 30 лет назад. **Организму требуются жиры.** Они —лучший источник витаминов А и Д. Кстати, жители средиземноморья, получающие 30% калорий вместе с жирами, редко страдают от сердечно-сосудистых заболеваний. Во Франции, где население традиционно "перебирает" жиров с маслом, сыром и прочими молочными продуктами, уровень сердечно-сосудистых заболеваний — один из самых низких в мире. Исследования показали, что этот же эффект происходит и из-за вина: **те, кто регулярно (но умеренно!) прикладывается к рюмке, рискует своим сердцем на 20% меньше.** Все оттого, что алкоголь используется организмом в качестве "чистящего средства", в том числе очищает он и стенки артерий. Правда, как всем известно, это такое лекарство, которое вызывает слишком быстрое привыкание.

В ходе переоценки ценностей в диетологии появились и другие новые данные — подчас весьма парадоксальные. Например, лысина каким-то образом связана с работой сердца. По крайней мере у лысых инфаркт бывает втрое чаще, чем у волосатых. **Плохое состояние зубов удваивает риск сердечно-сосудистых заболеваний.** Излишний вес однозначно вреден, но выдающийся вперед живот как признак предрасположенности к сердечным заболеваниям куда хуже, чем отложения жира на бедрах. На собственное сердце особенно не следует полагаться с 4 до 6 утра по понедельникам и пятницам. Именно в это время происходит наибольшее количество неприятностей. И что же из всего этого следует? А то, что если вы толстый, лысый и беззубый, никакие диеты вам не помогут. Особенно в ночь на понедельник. А если вы молодой, красивый и богатый, то можете есть и пить все, что хотите. Причем в любое время.

**Сергей ОСИПОВ.**



*Мастак.*

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

## НА ВСЯКИЙ СЛУЧАЙ

— Если вы поставите на подоконник ящик с землей и посадите туда несколько корней петрушки, 3-4 луковицы, посеете укроп и будете регулярно поливать, уже сейчас к столу можно иметь свежую зелень.

* * *

Рыба не будет прилипать к сковородке, если перед жарением посолить масло.

* * *

Частицы крахмала, приставшие к поверхности утюга, не соскабливайте ножом, а очистите тряпочкой с мелкой солью.

* * *

Новую щетку опустите щетиной на 10 минут в теплую соленую воду (2 столовые ложки на пол-литра воды) — щетина станет эластичнее и дольше прослужит.

## АДНЫМ СКАЗАМ

● Сёння ў рэспубліцы каля 30% насельніцтва **злоўжывае спіртным,** 8-10% тых, хто ўцягнуўся ў спіртное, становяцца алкаголікамі.

● За 10 гадоў развіцця фермерства ў Беларусі з 4400 **фермерскіх гаспадарак** 1700 спынілі сваё існаванне.

● Летась беларускія пагранічнікі выявілі каля 3 тысяч парушальнікаў граніцы.

● Як устанавілі брытанскія даследчыкі, з кожных 50 чалавек, якія зарабілі **інфаркт ці інсульт,** адзін, несумненна, з'яўляецца ахвярай атмасфернага забруджвання.

## АНЕКДОТ



У леди было два кавалера, один из них — с деревянной ногой. Когда она забеременнела, то спросила у обоих, кто бы решился назвать себя отцом ребенка. Инвалид предложил этот вопрос решить так:

— Если ребенок родится с деревянной ногой, то отцом буду я. Если нет, то мой соперник.

## ЯК ПРАВІЛЬНА ПАСТАВІЦЬ ЛОЖАК?

Спецыялісты па фэн-шуй, старажытнакітайскаму майстэрству гарманізацыі патокаў энергіі, якія няспынна цыркулююць у целе чалавека і прадметах, лічаць, што правільнае размяшчэнне прадметаў у доме — залог сямейнага шчасця, здароўя і дабрабыту. Асаблівую ўвагу яны раяць удзяліць спальні, таму што чалавек у час сну асабліва безабаронны і не можа сам процістаяць адмоўнай энергіі.

Ложак трэба размясціць так, каб чалавеку, які ляжыць на ім, добра былі відаць уваходныя дзверы. Але ні ў якім разе нельга ставіць ложак непасрэдна супраць дзвярэй (гэта зона актыўнасці, яна можа "адарыць" вас бяссонніцай), асабліва калі чалавек размяшчаецца да яе нагамі.

Гэта можа выклікаць асацыяцыі са смерцю і, як вынік, дрэннае самаадчуванне. Лепш за ўсё размясціць ложак па дыяганалі ад уваходных дзвярэй.

Мужу і жонцы лепш за ўсё адпачываць на адным вялікім матрацы, чым на двух маленькіх. Аказваецца, гэта можа ўнесці дысгармонію ў сямейныя адносіны, справакаваць трэшчыну. Узгалоўе ложка трэба размяшчаць на ўсход, каб узмоцніваць энергію ўзыходзячага сонца. А яшчэ пад ложкам не павінна знаходзіцца ніякіх лабочных рэчаў, каб энергія магла свабодна цыркуляваць пад ім. У спальні пажадана павесіць карціны з пейзажамі ці нацюрмортамі.

А вось вазы і статуэткі на падлозе непажаданыя — яны перашкаджаюць раўнамернаму распаўсюджванню энергіі.

● ДАПАМАЖЫ САБЕ САМ

### КРОПКАВЫ МАСАЖ СУПРАЦЬ ГРЫПУ



На малюнку паказаны кропкі, якія трэба злёгку масіраваць кончыкамі ўказальных пальцаў рук сінхронна з двух бакоў на працягу адной хвіліны (паўтарыць некалькі разоў на дзень). Такі самамасаж дапаможа палепшыць самаадчуванне пры грыпе.

### ПРАГАНЯЙЦЕ ГРЫП ТРАВАМІ

**Адвар кораня дзевясіла высокага:** адну чайную лыжку здробленага кораня заліць адной шклянкай вады, варыць на слабым агні паўгадзіны. Прымаць па адной сталовай лыжцы кожную гадзіну напрацягу дня.

**Ліпавы чай** — цудоўны сродак. Дабаўляйце ў гэты чай сок брусніц і клёна. Піць, калі захочацца і колькі хочацца. Сок морквы з малаком і мёдам папалам. Ужываць па 1 сталовай лыжцы 6 разоў за дзень.

● ПАРАДА ГАСПАДАРАМ

## *Падман на... карысць*

Першы, зімовы квартал года — якраз тыя месяцы, калі целяцца каровы. На базарах з'яўляецца больш малака, бо малыя цялятκі не ў стане ўвесь удой выпіць. І з кожным днём гэтая малочная прыбаўка расце. Максімум настане ў маі-чэрвені, калі жывёла выйдзе на пашу.

Ці ёсць нейкія захады, каб ад цяляці "ўкрасці" больш малака? Ёсць! Агульнавядома, што паўтара ці двухмесячнае цяля ўжывае да 350 літраў малака. Гэта даволі многа. Такія страты адчувальныя для сельскіх жыхароў, бо малако сёння цэніцца высока. Вось і сталі кемлівыя гаспадыні частаваць цялят... рознымі настоямі. У асноўным з выкарыстаннем траў. Атрымліваецца так, што падман ідзе на карысць.

Рыхтуецца напой вельмі проста. Бярэцца самае лепшае сена (200 — 300 г на вядро), заліваецца кіпенем. Настойваецца, як звычайна цэдзіцца, затым уліваецца ў малако. Спачатку шклянка на літр, пасля — паўтары, а з 20-дзённага ўзросту малако разбаўляецца настоем амаль напалову. Разбаўленае пітво пераліваецца ў бутэльку з соскай. Цяляты п'юць яго з ахвотай. Вітаміны, якія ўтрымліваюцца ў травах, быццам за вушы цягнуць маладняк. Поўсць у цялят бліскучая, гладкая. Самі яны вясёлыя і вельмі рухавыя. А гэта якраз тое, што трэба. Зрэшты, растуць гадаванцы таксама добра.

Вядома, кожнае цяля ўтрымліваецца ў спецыяльнай разборнай клетцы. Яе памеры такія: вышыня і даўжыня 120 см, шырыня ўсяго 45 см. Цяля не можа ў ім развярнуцца. Гэта для таго, каб не злізвала свае ж выдзяленні. Вядома, клетку праз дзень-два трэба праціраць ці мыць з мылам... Падлога ў такой клетцы з дошак ці з рэек з невялічкімі шчылінамі. Шчыліны прапускаюць вадкія выдзяленні. У стойле амаль заўсёды суха. Калі пад дошкамі падлогі выкапаць яму, можна збіраць каштоўнае ўгнаенне "на будучае".

Важна, каб клетка стаяла побач з "мамай", была абаронена ад скразнякоў. Памятаць, што тэмпература ў першыя 20 дзён павінна быць не ніжэй 14 градусаў цяпла. У больш сталым узросце — да 12.

Здараецца, што гэтага дабіцца нельга — хлеў халодны. "Яслі" ставяць у хаце ці цёплай летняй кухні.

Прадбачым такое пытанне: а што пасля настоеў з траў? З 20-дзённага ўзросту (а можа на 2-3 дні раней) маладняку даюць "жывое сена". Спачатку жменьку, але самага смачнага, мурожанага. Пасля — да паўкілаграма. Сена павінна быць дробным. Пасля ў рацыён уводзяць гарбуз, моркву, бульбу. Вядома, усё здробненае. Пажадана ў гатаваным выглядзе.

Але частку абавязкова і ў сырым — вітаміны не разбураюцца, страўнік жывёлы "вучыцца" працаваць з поўнай нагрузкай. Колькасць кармленняў — ад пяці да трох разоў у трохмесячным узросце. Летам даваць маладняку пойла (два разы) і трымаць увесь светлавы дзень на пашы. Вады — уволю. Карысць дадуць і падкормкі смачнай травой.


## ВЫХАДНЫЯ ДАНЫЯ

**"Беларускі Усход".** Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета. На беларускай і рускай мовах.

**Заснавальнік** — працоўны калектыў рэдакцыі.

**Адрас:** 213670, Магілёўская вобл., Хоцімскі р-н, в.Маркаўка. Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 22-9-89, намесніка гал. рэд. — 22-00-9.

**Рэгістрацыйны N141.**

Падпісны індэкс — 64098.

Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.

Адказнасць за дакладнасць фактаў, падзей, прозвішчаў і іншай інфармацыі нясуць аўтары апублікаваных матэрыялаў.

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 16 лютага 2000 г. Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.

Тыраж 4212 экз. Аб'ём I друк. аркуш. Заказ № 7.

**Галоўны рэдактар В.А. ДАЎГАЛЁЎ.**